*Шарэцкі чакае тлумачэнняў ад КДБ (стар. 2)*
*Рэферэндум: да гісторыі пытання (стар. 4)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

20 верасня 1996 г. | № 71 | Кошт свабодны

## Чарнобыль ізноў можа выбухнуць?

**Не выключана, што ў «саркафагу» Чарнобыльскай АЭС можа пачацца новая ланцуговая рэакцыя.**

16 верасня ў 18:20 тры прыборы, устаноўленыя ў «саркафагу» Чарнобыльскай АЭС, паказалі павышэнне нейтроннага патоку. Гэта можа сведчыць аб узнікненні ланцуговай рэакцыі рэшткаў ядзернага паліва. Па звестках з міністэрства экалагічнай бяспекі Украіны, у 19:04 паказанні прыбораў вярнуліся да нармальнай велічыні.

Падобны выпадак ужо быў зафіксаваны 12 верасня, калі павысіліся паказанні двух прыбораў у іншым памяшканні ЧАЭС. Гэтыя факты будуць расследаваць спецыяльныя камісіі. Некаторыя спецыялісты выказваюць думку, што паказанні прыбораў змяніліся на кароткі час з прычыны збояў у сістэме кантролю. Аднак калі сістэма можа даваць «збоі», то дзе гарантыя, што сітуацыя ўвогуле кантралюецца?

*УНІАН — БелаПАН*

## Ігналінскую АЭС узялі пад кантроль

**На гэтым тыдні (18 верасня) пачалася эксперыментальная эксплуатацыя аўтаматызаванай сістэмы радыяцыйнага кантролю ў зоне ўплыву Ігналінскай АЭС, якая размешчаная ў чатырох кіламетрах ад беларускай тэрыторыі.**

Сістэма ўяўляе сабою дзевяць датчыкаў аўтаматычнага кантролю радыяцыйнай абстаноўкі, якія ўстаноўленыя паблізу мяжы з Літвой у Браслаўскім раёне. Яны будуць пастаянна вымяраць узровень радыяцыі, і ў выпадку аварыйнай сітуацыі інфармацыя з датчыкаў праз 4 хвіліны паступіць у мінскі Цэнтр радыяцыйнага кантролю і маніторынгу.

Гэты праект фінансаваў Еўрапейскі Саюз, а выканала яго нямецкая фірма «Хорман». Цяпер пытанне ў тым, ці дасць Захад грошы, каб узяць пад такі ж кантроль астатнія тры АЭС (Чарнобыльскую, Смаленскую і Ровенскую), якія таксама размешчаныя паблізу Беларусі.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

*ЧУТКІ*

## Усіх цікавіць «Джамба»

У журналісцкіх колах цыркулююць звесткі, нібыта ў Мінску ёсць нейкі чалавек па мянушцы «Джамба», які, па словах дасведчаных людзей, «валодае ўсёй інфармацыяй і планамі Лукашэнкі». Выхад на «Джамбу» актыўна шукаюць цяпер не толькі апазіцыйныя сілы Беларусі, але і афіцыйная Расія. Кажуць, калі да тандэма далучыцца «контрразведчык Глафіра», то гэта можа кардынальна паўплываць на выніکі запланаванага рэферэндуму.

**Б.П.**

# Карпенка павысіў голас – і яго адразу пачулі

*Парламент пераадолеў чарговы крызіс*

Пачатак і канец чарговай «чорнай паласы» ў жыцці парламента звязаны з канкрэтнымі падзеямі. Пачалася яна заявай Сямёна Шарэцкага, у якой ён папрасіў парламентарыяў вызначыцца з даверам да старшыні. Скончылася ж — разам з «дыпламатычнай» місіяй у Мінск лідэра расійскіх камуністаў Генадзя Зюганава.

Гэты перыяд стаў для Вярхоўнага Савета яшчэ адным выпрабаваннем на жыццяздольнасць, і справіўся з ім ВС даволі паспяхова. Па ўсім відаць, уключыліся механізмы самазахавання, якія не даюць збою нават у самыя складаныя моманты. Першым «бар'ерам» была прапанова С.Шарэцкага. Ён сказаў літаральна наступнае: *«Я сам хацеў бы паставіць пытанне аб старшыні Вярхоўнага Савета ў парадак дня нашай сесіі... Калі ваш давер ёсць, я і далей буду працаваць сумленна, як і працаваў»*. Прыводжу гэтую цытату дзеля таго, каб выправіць недакладнасць беларускага тэлебачання і некаторых дзяржаўных газет, якія паспяшаліся паведаміць, што спікер прасіўся ў адстаўку. Гэтага не было. Старшыня зрабіў сапраўды непрадказальны, але і, як потым высветлілася, хітры ход: ведаючы аб патаемным зборы подпісаў за недавер усяму прэзідыуму, ён прыкрыў кіраўніцтва ВС уласным аўтарытэтам — і не толькі перамог, але і прымусіў апанентаў «прасіць прабачэння». Ва ўсякім разе лідэр прапрэзідэнцкай фракцыі «Згода» Уладзімір Канаплёў нават запэўніў Шарэцкага (спадзяемся, шчыра), што ніхто яго здымаць з пасады не збіраецца. А потым тое самае пацвердзіў і віцэ-спікер Юрый Малумаў, якому ў той дзень таксама пагражала адстаўка — гэтага ўпарта дамагаўся Павел Знавец. У выніку 22 дэпутаты прагаласавалі за тое, каб уключыць у парадак дня пытанне аб даверы старшыні, а 74 былі супраць.

Што ж, гэта — перамога, хоць і не ашаламляльная. У зале паседжанняў у той дзень было прыкладна 150 дэпутатаў. Атрымліваецца, што 50 адсядзеліся ў акопах, не падымаючы галавы. Магчыма, менавіта ў гэтых галовах ужо выспяваюць планы, як без ахвяр выйсці з бітвы, якая пагражае знішчэннем абодвум бакам. На гэтых людзей і вырашылі зрабіць стаўку аўтары чарговай версіі «нулявога варыянту».

У сераду 18 верасня парламентарыі атрымалі праект новай пастановы ВС «Аб рэспубліканскім рэферэндуме», падпісаны кіраўнікамі фракцый аграрыяў Мечыславам Гіруцем і камуністаў Сяргеем Калякіным. Канстатуючы ў звароце да дэпутатаў прапісныя ісціны («мудрасць палітыкаў заключаецца ў тым, каб пры вострых сітуацыях шукаць шляхі выхаду, ісці на кампраміс і знаходзіць рашэнні, якія б забяспечылі спакой у грамадстве»), аўтары дакумента выказаліся за зварот да прэзідэнта з прапановай адклікаць ягоны праект Канстытуцыі, узамен зрабіўшы тое ж самае з парламенцкім варыянтам, пасля чаго стварыць пагадняльную камісію (па 10 чалавек з кожнага боку), выпрацаваць агульны тэкст, вынесці яго на ўсенароднае абмеркаванне — і ўжо толькі тыя моманты, па якіх не будзе дасягнутая згода, прапанаваць на рэферэндум.

Пры гэтым праект пастановы прадугледжваў ахвяру ў выглядзе адмены не толькі прызначанага на 24 лістапада рэферэндума, але і давыбараў у парламент. Гэты апошні пункт дакумента стаў той самай «маленькай» памылкай, якая выклікала абурэнне дэпутатаў ў дачыненні да ўсяго праекта. Першым рашучы пратэст супраць адмены выбараў выказаў Мечыслаў Грыб, яго падтрымалі прадстаўнікі «Грамадзянскага дзеяння». Нарэшце Генадзь Карпенка, нават павысіўшы голас, заявіў, што торг у такіх прынцыповых пытаннях немагчымы, трэба стаяць на абвешчанай пазіцыі, а таму, каб не ганьбіць парламент, варта зусім зняць праект з абмеркавання.

Дыскусія супала з момантам, калі Сямён Шарэцкі пакінуў Авальную залу, каб прыняць у сваім кабінеце Генадзя Зюганава. Гэта, магчыма, і аказала ўплыў на далейшыя падзеі. Ва ўсякім разе праект пастановы сапраўды быў хутка зняты з абмеркавання і адпраўлены на дапрацоўку, прычым без асаблівага супраціўлення камуністаў і аграрыяў. Парламенцкія аглядальнікі выказалі такую версію: пастанова рыхтавалася як падарунак Зюганаву, але паколькі з ёю ўсё роўна спазніліся — дык няма чаго спяшацца. Толькі ў чацвер новы, узгоднены варыянт пастановы аб «нулявым варыянце» быў прыняты за аснову. Цяпер спрэчкі можна весці хоць сабе і тыдзень — адцягваючы час і чакаючы прэзідэнцкіх пасланцоў з белым сцягам.

На ўзмацненне пазіцыі ВС будзе працаваць і прынятая па асабістай просьбе Віктара Ганчара пастанова са складанай назвай «Аб рэалізацыі п.5 Пастановы ВС РБ «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму РБ і мерах па яго забеспячэнні». Па словах старшыні ЦВК, калі б за гэты дакумент не прагаласавалі, Цэнтрвыбаркам застаўся б без прававой падтрымкі. Цяпер механізм арганізацыі рэферэндума і выбараў, прызначаных на 24 лістапада, уключаны — і спыніць яго будзе нялёгка. У кожным разе парламент прадэманстраваў, што ён ад даты 24 лістапада не адмаўляецца і пойдзе насустрач прэзідэнту толькі ў выпадку, калі той сам пачне рэалізацыю «нулявога варыянта». Па звестках некаторых членаў прэзідыума ВС, ёсць пэўныя падставы меркаваць, што А.Лукашэнка схіляецца да неабходнасці кампрамісу з парламентам.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Зюганаў-«міратворца»

**Два дні (18 і 19 верасня) у Мінску знаходзілася дэлегацыя кампартыі Расійскай Федэрацыі на чале з яе кіраўніком Генадзем Зюганавым.**

Акрамя аховы і памочнікаў, галоўнага камуніста Расіі суправаджаў старшыня расійскага Аграрнага саюза Васіль Старадубцаў, вядомы сваім удзелам у ГКЧП. Спачатку дэлегацыя правяла перамовы за зачыненымі дзвярыма з кіраўніцтвам ПКБ. Затым Генадзь Зюганаў сустрэўся са старшынёй Канстытуцыйнага суда Валерыем Ціхінем. Потым ён гутарыў са спікерам парламента Сямёнам Шарэцкім, пасля чаго прыйшоў у Авальную залу, дзе адказаў на пытанні дэпутатаў розных фракцый і накіраваўся на сустрэчу з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром. Учора (19 верасня) Генадзя Зюганава прыняў прэзідэнт Лукашэнка, які запрасіў для дыялогу з маскоўскім госцем «сваіх» камуністаў.

Па сваёй насычанасці візіт Генадзя Зюганава яўна перасягнуў кароткачасовы экспромт сакратара Савета бяспекі Аляксандра Лебедзя і дырэктара інстытута новага замежжа Канстанціна Затуліна. У адрозненне ад іх, Генадзь Зюганаў, які прыбыў у Мінск «з міратворчымі мэтамі», сустрэўся з кіраўніцтвам абодвух канфліктуючых бакоў. Галоўны расійскі камуніст назваў сябе *«найбольш легітымным расійскім палітыкам»*, спасылаючыся на тое, што на прэзідэнцкіх выбарах атрымаў больш за 30 мільёнаў галасоў.

Зюганаў сказаў, што перад прыездам у Мінск ён меў кансультацыі з кіраўніцтвам Федэральнага сходу і прэм'ер-міністрам Віктарам Чарнамырдзіным. Некаторыя аналітыкі выказвалі меркаванне, што пасля сустрэчы з Сямёнам Шарэцкім і кіраўніцтвам ПКБ Генадзь Зюганаў адмовіцца ад сустрэчы з Лукашэнкам. Аднак лідэр КПРФ палічыў гэта непрымальным варыянтам, бо ён павінен «аддзячыць» беларускаму прэзідэнту за маральную падтрымку (а за фінансавую?) на расійскіх прэзідэнцкіх выбарах.



*На здымку: Г. Зюганаў, В. Старадубцаў і С. Шарэцкі.*

Генадзь Зюганаў неаднаразова падкрэсліваў на сустрэчы з дэпутатамі, што не жадае ўмешвацца ва ўнутраныя справы Беларусі, аднак выказаў свой погляд на канфлікт паміж прэзідэнтам і парламентам, чым ён *«вельмі занепакоены»*. Зюганаў спадзяецца, што справа не дойдзе да «расійскага варыянту», калі ў Маскве з'явіліся танкі.

Адказваючы на пытанні парламентарыяў, лідэр расійскіх камуністаў часта спасылаўся на расійскі вопыт. На ягоную думку, *«канстытуцыі пішуцца народам для ўлады, а не наадварот. Калі ўлада піша канстытуцыю пад асобнага чалавека, то заўтра можна сутыкнуцца з яшчэ большымі праблемамі, чым сёння»*. Лідэр КПРФ прачытаў лукашэнкаўскую канстытуцыю і заўважыў, што многае «перекочевало» з расійскага асноўнага закона ў беларускі праект. Зюганаў лічыць, што расійская Канстытуцыя дае прэзідэнту больш паўнамоцтваў, *«чым у Мітэрана і Клінтана разам узятых»*. Зюганаў сказаў, што выступае за *«нармальны баланс»* усіх галінаў улады, таму што *«ўся ўлада ў адных руках — гэта не моцная ўлада»*. Ён упэўнены, што *«мілая, брацкая Беларусь ніколі не дапусціць нават намёку на фашызм»*. Лідэр КПРФ скептычна ставіцца да прыняцця Канстытуцыі на рэферэндуме. Расійскі вопыт сведчыць, што *«прыняцце Канстытуцыі на рэферэндуме прывяло да вельмі сур'ёзнага дысбалансу. Гэта вельмі складаны дакумент, які патрабуе вывучэння, і насельніцтва не гатовае для яго хуткага ўспрыняцця. Гэта можа ўскладніць абстаноўку і прывесці да вельмі складаных наступстваў»*. Чытаў Генадзь Зюганаў і твор эпісталярнага жанру, які нядаўна атрымаў ад Жырыноўскага спікер ВС Шарэцкі. На думку Зюганава каментаваць выказванні Уладзіміра Вольфавіча *«самая няўдзячная справа»*. Па словах лідэра камуністаў, гэтае пісьмо не выклікае нічога, *«акрамя сумнай усмешкі»*. Ён параіў не звяртаць увагі *«на падмётныя лісты»*.

Лідэр КПРФ лічыць, што праблемы трэба вырашаць *«за агульным сталом»*, а калі ўзнікаюць пытанні юрыдычнага характару, звяртацца да Канстытуцыйнага суда, дзе, па яго словах, працуюць *«вельмі кваліфікаваныя людзі»*.

На прэс-канферэнцыі Генадзь Зюганаў вельмі стрымана каментаваў перамовы з прэзідэнтам Лукашэнкам. Па ягоных словах, гаворка ішла найперш пра сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў Расіі і Беларусі, а таксама пра інтэграцыю. Шэф расійскіх камуністаў лічыць, што галіны ўлады ў Беларусі *«маюць палітычную волю і жаданне вырашаць пытанні дабром»*. Развітваючыся з лідэрамі ПКБ, Генадзь Зюганаў параіў *«не гарачыцца»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Нам снова обещают светлое будущее

Здравствуйте, уважаемая Редакция.

Пишет вам пенсионерка. Когда-то, в далеком 1956 году, в программе КПСС, обещали нам, что в 1980 году будет построен коммунизм. 80-й год тогда для нас, десятиклассников, казался недосягаемо далеким. Но вот я уже на пенсии. И 80-й год остался далеко в прошлом, а коммунизма так и не построили. Хотя была категория людей, которая и в то время имела свой коммунизм, а простым людям только обещали счастье в будущем, мол, ваши дети будут жить при коммунизме. А теперь вот президент Лукашенко для детей наших обещает счастье, но дети ведь живут теперь. И где то счастье? Жили плохо, стали жить с некоторой стороны еще хуже.

Хотя, будучи кандидатом в президенты, Лукашенко обещал очень много: и работу всем, и цены не повышать, и затоваривание складов остановить. Тогда он заявил с экрана телевизора: «Я то подожду, но сможет ли ждать народ?». И вот, дождались на свою голову. Пенсия — чтоб только не умереть с голоду, а про достаток и речи нет.

Все время твердят, что нет денег. Но и те, что есть, пускают на ветер. Например, весной президент сорвал выборы — это ведь наши деньги, потому что выборы повторно надо было проводить.

Теперь президенту захотелось провести референдум. И для чего? Оказывается, чтобы «посоветоваться с народом». Народ уже выбрал своих представителей в парламент, вот пусть президент и советуется с депутатами, которым право на это доверил народ. А новый референдум — это наши деньги. Это снова повышение цен на хлеб, на молоко, проезд, коммунальные услуги...

Если по каждому поводу президент будет советоваться с народом через референдум, то мы без штанов останемся. Уже теперь по 3—4 месяца не платят денег на заводах, в колхозах, совхозах, а потом будет еще хуже. Слишком дорого обходится для народа подобное «советование».

Иногда слышишь: «А что один президент сделает. Тут кого ни поставь, так ничего не сделает».

Во-первых, президент не один. У него есть администрация, Кабинет министров, исполнительная «вертикаль» и т.д. А во-вторых, зачем народу вообще президент, если «кого ни поставь — ничего не сделает»? Не надо тогда никаких президентов. Достаточно парламента. А то еще на содержание президента, на его самолет, вертолет, пароход, охрану и прочее сколько наших денег уходит. Уж лучше эти деньги отдавать пенсионерам, больницам, а то там нет лекарств, хотя говорят по радио, что десятки тон гуманитарных лекарств поступают в Беларусь. А где они?

В своем выступлении в Гродно президент много раз повторил слова: «Этот нищий, обездоленный бедолага народ, эти врачи, учителя...». Но я не считаю себя обездоленной. Каждому человеку Богом дана своя доля. Одному — меньше, другому — больше. Но обездоленных нет. Есть нищие. Но кто же сделал этот народ нищим? Ведь сам президент Лукашенко уже семь лет в правящих кругах вращается, а теперь и вообще третий год правит страной. Тогда сколько еще этому трудолюбивому, работающему, умному народу быть нищим? Надоело. Не мешайте людям работать, соблюдайте основной закон и других призывайте к этому и тогда не будет ни нищих, ни бедолаг.

А референдумы к достатку не приведут, скорее разденут и разуют.

С уважением

**ПОПОВА Надежда Константиновна**, *г.Минск*



Да, да, уважаемые граждане. Нам предложено голосовать не за конституцию, под этим видом мы должны утвердить царское правление.

Почему же надо менять только-только принятую существующую Конституцию? Президент в опубликованном обращении к народу объясняет: *«Реальное осуществление конституционных норм, связанных с принципом разделения властей... показало не только их несовершенство, но и серьезные противоречия»*. Что же это за нормы такие? Это, по-видимому, нормы, которые не позволили правительству увеличить пенсионный возраст до 65 лет для мужчин и до 60 лет для женщин. А может быть, плоха конституционная норма, когда только с разрешения Верховного Совета можно отправлять наших детей-солдат для участия в военных конфликтах за пределами Беларуси?

Но уже точно плоха статья, запрещающая распоряжаться нашими деньгами (государственным бюджетом) одной личности, даже имеющей самый высокий административный чин. Если судить по прессе, то таких «плохих» конституционных норм набралось больше десятка. Впрочем, все эти нормы и так были нарушены. А нарушителем является «не Бог, не царь и не герой», которому народ доверил следить, чтобы никто не нарушал Конституцию, и которому дал должность президента.

Обратимся к президентскому проекту новой конституции. Первые три раздела конституции — это как бы внешний вид невесты. Здесь должно быть все красиво и для наших граждан, и для мировой общественности. Например, в статье 3 читаем: *«Единственным источником государственной власти и носителем суверенитета в Республике Беларусь является народ»*. Красота! Читаем дальше: *«Народ осуществляет свою власть непосредственно и через представительные органы в формах и пределах, определенных Конституцией»*. Уже не столь гладко. Что же это значит — «осуществляет свою власть непосредственно»? В статье 37 находим ответ: *«Непосредственное участие граждан в управлении делами общества и государства обеспечивается проведением референдумов, обсуждением проектов законов и вопросов...»*. Вот и вся непосредственная народная власть!

Но, может быть, народу легко назначить референдум? Да нет. Президент может единолично назначить плебисцит, а по инициативе граждан это сделать практически невозможно. Судите сами: *«Республиканский референдум назначается президентом по предложению не менее 450 тысяч граждан»* (статья 74). Но не просто граждан. В Минске, например, возьмут да и соберут необходимое количество подписей. Чтобы этого не случилось, надо собирать подписи по всей стране — не менее, как по 50 тыс. подписей от каждой области и г.Минска. Учтите, что потом власти будут браковать подписные листы. Вот вам и вся демократия!

А как прикажете понимать следующий перл статьи 79: *«Президент осуществляет посредничество между органами государственной власти, государством и обществом»*. С каким это «государством» будут общаться наши органы государственной власти в нашем государстве через нашего президента? Но, если догадаться, что президент и есть это «государство», то все становится на свои места. Вы помните, как говаривал один Людовик? «Государство — это я!»

Чем дальше читаешь эту «конституцию», тем все упорнее мысль: ее составитель надеялся, что люди на нее посмотрят вскользь. А запомнят они ласкающие душу слова президента, что все они — дорогие ему соотечественники и что принятие этой конституции обеспечит процветание нашей Родины. К тому же президент заявлял (это было на встрече с предпринимателями), что народ наш «квелый», а «квелому» народу не до чтения больших статей. Еще было им сказано (в поездке по Пинскому району), что нашему народу нужен «вожак». Поэтому составитель нового проекта конституции и решил, что народ, не читая проекта, дружно проголосует за «вожака» — и все тут. Видимо, поэтому в статье 79 записано: *«президент олицетворяет единство народа»*. Может, это и будет когда-нибудь соответствовать действительности, но только не сейчас.

По словам самого президента, в настоящее время у нас «увеличилось политическое напряжение в обществе». Нынешний президент, надо прямо сказать, не смог не только «олицетворить единство народа», но с удручающим постоянством повторяет безуспешные попытки силового управления страной. Это напоминает заворачивание шурупа с помощью молотка. Ну что это за объединитель нации?

А чтобы что-то изменить в этой новой царской конституции, необходим референдум. А мы уже видели, как сложно по инициативе народа это сделать. Сам же царь-президент добровольно никогда не откажется от трона. Вот вам, бабушка, и Юрьев день! Но и это еще не все. Казалось бы, поцарствовал срок согласно царской конституции — и иди в свой любимый народ. Но нет, не хочет к народу идти царь-батюшка. Ему подавай пожизненное сенаторство! (См. статью 91). Вспомните, как президент клеймил позором депутатов Верховного Совета, которые хотели только два года неприкосновенности и сохранения места на бывшей работе.

Что тут больше говорить! У каждого из вас есть голова, которая должна думать не «квело», как на это надеется составитель царской конституции. Думайте, граждане рабочие, колхозники, учителя, врачи, депутаты, министры, безработные и предприниматели. Президент уже подумал. И не говорите своим детям потом, что вы в свое время ничего не поняли, что вы побоялись потерять кусок хлеба, что вас обманули.

На каждого мудреца довольно простоты. Думайте, люди. Думайте! Бесплатный сыр бывает только в мышеловке.

**А.НИКОЛАЕВ,**
*рабочий, г.Минск*

# В день 7 ноября выберем себе царя?

## РАДКІ З ЛІСТОЎ

Дзіўная рэч: народ Чачні за сваю незалежнасць кроў пралівае, а мы, так лёгка атрымаўшы суверэнітэт, гатовыя ад яго адмовіцца...

**Алена ФРАЛОВА,** *16 гадоў, г.Мінск*

Праўду кажа народная мудрасць: век жыві — век вучыся. Я ўжо жанчына немаладая, даўно на пенсіі, сама была настаўніцай, а толькі цяпер, здаецца, пачынаю разумець, дзе праўда. Мне горка і балюча, што два гады назад я горача агітавала за Лукашэнку. Наіўная, я сапраўды спадзявалася, што ён выканае свае абяцанні. Замест гэтага ён другі раз плюе мне ў твар сваім рэферэндумам.

Пытаецца пра зямлю. Мае бацькі купілі надзел у 1938 г., уся радня дапамагала. Дык у 1939 г. Саветы гэтую зямлю адабралі, абагулілі, а наша сям'я была ў спісах на вываз у Сібір на 30 чэрвеня 1941 — але вайна пачалася. Гэта — рана, якая баліць усё жыццё. Хай Лукашэнка не думае, што мы забыліся. Я не буду адказваць на пытанне пра зямлю. Я прагаласую супраць галоўнага зла — прэзідэнта і ягонай канстытуцыі.

**Еўдакія Мікітаўна,** *г.Мінск.*

Раней я не выпісваў вашую газету па беднасці сваёй (пенсія 340 тысяч), а звычайна СВАБОДАЙ дзяліўся са мной сусед, таму газету чытаў амаль рэгулярна. Цяпер жа сам выпісаў СВАБОДУ на IV-ты квартал. Вырашыў: лепш не даесці кавалак хлеба, але заўсёды мець праўдзівую інфармацыю пра тое, што творыцца ў краіне.

**Аляксей БРУКОВІЧ,** *г.Пружаны*

# Яўка з павіннай змякчае віну

Не так гладка, як хацелася б, ідуць справы ў Лукашэнкі. Грамадзяне Беларусі з кожным днём усё больш упэўніваюцца, што словы прэзідэнта — гэта проста балбатня. Палітыка, заснаваная на хлусні, яшчэ ні адну краіну свету не вывела з крызісу. Лукашэнка спяшаецца правесці рэферэндум, бо баіцца. Баіцца, што давядзецца адказваць за «запушчаныя» заводы, за поўны развал сельскай гаспадаркі, за тыя мільёны долараў, якія ўдалося з Ціцянковым правесці міма дзяржаўнай кішэні, за «перамогу» над карупцыяй у вышэйшых эшалонах улады, за ўсё тое, што ён нарабіў за 2 гады прэзідэнцкага кіравання.

Прэзідэнт і ягонае акружэнне адчуваюць, што пэўнасці перамогі рэферэндуму няма. Таму яны стараюцца дыскрыдытаваць парламент, партыі, прафсаюзы — усіх, хто перашкаджае планам Лукашэнкі па ўзурпацыі ўлады. Лукашэнка ківае на Расію, што яна, маўляў, ягоныя дзеянні падтрымлівае. Але ж паглядзіце, хто падтрымлівае Лукашэнку ў Расіі — ўсякія жырыноўскія ды ільюхіны. Як любіць выказвацца сам Лукашэнка, «эти обанкротившиеся политиканы, за которыми не стоит народ». Сапраўды, апошнія выбары ў Расіі паказалі, што народу Расіі не патрэбныя пустасловы. Пахіснуўся трон пад Лукашэнкам — вось яны і кінулі ратаваць свайго «славянскага брата».

Слухай, гаспадзін прэзідэнт, годзе займацца «попу-лизмом». Шанц у цябе яшчэ ёсць: яўка з павіннай і шчырае раскаянне змякчае віну.

**Аляксандр ЦЫНКЕВІЧ,** *студэнт*

## КАДРЫ

# Электарат наступае



